● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

1 чэрвеня, 1996 г. субота, №№ 136—137 (22939 — 22940)




# ЗВЯЗДА

**ПАДРАБЯЗНАСЦІ**

## МІНЖЫЛКАМГАС НІБЫ СУЧАСНЫ ГАМЛЕТ: ДЗЕ ЎЗЯЦЬ ГРОШЫ?

Як ужо інфармавала «Звязда», прапанова Мінжылкамгаса аб павелічэнні тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі адразу пасля заканчэння ацяпляльнага сезона гэтага года урадам краіны адобрана не была. Але, як сцвярджае намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі краіны Георгій Дабравольскі, праблема фінансавання пакуль не знаходзіць свайго вырашэння. Як вядома, Вярхоўны Савет, прымаючы бюджэт Рэспублікі Беларусь на 1996 год, прадугледзеў пакрыццё 80 працэнтаў страт арганізацый гаспадаркі за кошт выплат насельніцтва і толькі 20 працэнтаў — за кошт дзяржаўнага бюджэту. Для таго, каб укласціся ў гэтыя жорсткія рамкі, на думку Георгія Георгіевіча, і неабходна было павысіць плацяжы за камунальныя паслугі і занальныя жыллёвыя памяшканні. Але гэтага не адбылося. У той жа час недахват бюджэтных сродкаў у арганізацыях гаспадаркі адчуваецца цяпер найбольш востра. Паводле даных міністэрства, толькі за першыя чатыры месяцы гэтага года жыллёвым гаспадаркам не выдзелена неабходных сродкаў на суму адзін трыльён рублёў.

Як вядома, падрыхтоўка да чарговага ацяпляльнага сезона патрабуе назапашвання вялікай колькасці сродкаў. Днямі гэтае пытанне абмяркоўвалася ў Кабінеце Міністраў Беларусі. Шукаюцца розныя шляхі вырашэння праблемы. Каб выканаць указ Прэзідэнта № 351, міністэрства спрабуе прыцягнуць новыя тэхналогіі, якія дазволяць зменшыць спажыванне энерганосьбітаў. Гэта выкарыстанне звышізаляцыйных труб, замена неэфектыўных катлоў на больш эфектыўныя і іншыя мерапрыемствы. Такім чынам, зніжаючы сабекошт кожнага віду паслуг, можна дасягнуць зніжэння і агульнага паказчыка выдаткаў.

— Аднак па шэрагу паслуг, — як адзначыў Георгій Дабравольскі, — насельніцтва аплачвае толькі да 40 працэнтаў рэальнага кошту. Таму, калі пытанне павышэння тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі не будзе вырашана да пачатку чарговага ацяпляльнага сезона, то і эксплуатацыя жыллёвай гаспадаркі будзе пад вялікім пытаннем.

**Сяргей КУРКАЧ.**

**ДА ВЕДАМА ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

Першая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадоўжыць сваю работу 4 чэрвеня 1996 года ў 16 гадзін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме Урада.

**СКАНДАЛ**

## ЭХ, МЫТНЯ... І ЯНА ТУДЫ Ж?

Па Гродну папаўзлі чуткі: «Каго ж гэта арыштавалі на мытні?» Аказваецца, днямі праваахоўнымі органамі затрыманы адзін вадзіцель Гродзенскай міжрэгіянальнай мытні. Яго «шэф», кіруючы работнік мытні, не арыштаваны, аднак што чакае чалавека далей — пакуль невядома. У любым выпадку нічога прыемнага не будзе, паколькі ў адносінах да гэтага кіраўніка абласной пракуратурай узбуджана крымінальная справа. Расследаванне праводзіць упраўленне КДБ па Гродзенскай вобласці, па просьбе якога мы пакуль не называем прозвішча высокапастаўленага мытніка. Якія нормы ён парушыў — таксама не расшыфроўваецца. Быццам бы нешта незаконна прайшло праз мытню. Але што канкрэтна стаіць за агульнай фармулёўкай: злоўжыванне службовым становішчам? Магчыма, інфармацыя аб гэтым з'явіцца пазней. Сёння ж застаецца толькі з горыччу ўздыхнуць з нагоды чарговага ўдару па іміджу ўплывовай службы, якая, караючы за парушэнні іншых, сама дэманструе не лепшыя прыклады законапаслухмянасці. Зрэшты, не будзем спяшацца з высновамі. Бо любое злоўжыванне, само сабой, павінна быць не толькі выяўлена, але і належным чынам даказана.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**



## ФОТАСЛОВА

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

Белая птушка сустрэчы,
Чорная птушка расстання,
Люду нябачныя,
Богам прызначаныя
Птушкі майго кахання.
Ўсё ім наўкруг варожае —
Нехта сіло рыхтуе,
Нехта лязо гартуе,
Ўвысі каршун палюе.

Тройчы ўначы праклятыя,
Благаслаўлёныя ўранні,
Ў хмарах маланкай распятыя
Птахі майго кахання.
..........................................
Прымхамі б'юцца ў вакно маё,
Чэзнуць у цемры бяссоннай
Белая — адляцелая,
Чорная — нарачоная.

## Ад «Добрага вечара» — да «Газеты»

Учора ў кіёсках «Белсаюздруку» з'явіўся першы нумар новай сталічнай «Газеты». Менавіта такую назву носіць выданне, заснавальнікам якой стаў журналіст Міхась Расолька. «Газета», як бы падхапіла эстафету ад «Добрага вечара», які ў сувязі з ліквідацыяй рэдакцыі спыніў сваё існаванне (хай сабе і часова). Што ж, як кажуць, святое месца не пустуе...



**ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК**

## РАЗГОН НЕСАНКЦЫЯНІРАВАНАГА ПІКЕТА АБМЯРКОЎВАЛІ Ў ПАРЛАМЕНЦЕ. СТВОРАНА АДПАВЕДНАЯ КАМІСІЯ

31 мая дэпутаты Вярхоўнага Савета часова перапынілі абмеркаванне законапраектаў, каб вярнуцца да падзеі, якая адбылася 30 мая ў цэнтры Мінска, калі нарады міліцыі і спецназа разганялі ўдзельнікаў пікета ў падтрымку арыштаваных украінцаў. У «Розным» з паведамленнем пра гэта выступіў дэпутат Мечаслаў Грыб, які абураўся дзеяннямі міліцыі і АМОНа, што неправамерна, на яго думку, нападалі на людзей, якія ніякіх законаў не парушалі. На думку М. Грыба, менавіта органы аховы правапарадку правакавалі беспарадкі. Дэпутат Грыб заявіў, што ён накіроўвае адпаведны запыт міністру ўнутраных спраў па гэтым пытанні.

У першай палове дня на гэтую тэму выступіў дэпутат Лябедзька, які прапанаваў стварыць спецыяльную камісію, зазначыўшы, што віна за тое, што адбылося 30 мая, ляжыць і на Вярхоўным Савеце, які ў свой час адмовіўся стварыць адпаведную камісію па разгляду падзей 26 красавіка і які зацвердзіў на пасаду міністра ўнутраных спраў Агальца, што адкрыта заявіў аб тым, што Канстытуцыя для яго не самы галоўны дакумент... На здзіўленне, падтрымаў Лябедзьку дэпутат Кулакоўскі са «Згоды». Аднак ён глядзеў на пазаўчарашнія падзеі з іншага пункту гледжання. Дэпутат Кулакоўскі зазначыў, што настала пара разабрацца, хто штурхае маладых людзей на вуліцу, на сутыкненне з уладамі і праліццё крыві. Кулакоўскі зазначыў, што пікетчыкі былі арганізаваны, што яны разбілі машыну і ўчынілі дэбош перад рэзідэнцыяй Прэзідэнта. Дэпутат Кулакоўскі асабіста ледзь не трапіў пад удар палкай аднаго з пікетчыкаў, але своечасова адскочыў... За стварэнне адпаведнай камісіі выказаліся намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Карпенка і дэпутат Гразнова. Апошняя зазначыла, што людзі паводзілі сябе спакойна, а вось прадстаўнікі органаў аховы правапарадку, якія былі прывезены, па яе падліках, у 18 аўтобусах, без усякіх падстаў выхоплівалі іх і валаклі ў машыны. На яе погляд, правакацыі былі з боку міліцыі і спецназа. Дэпутат Абрамава з фракцыі «Саюз працы» прапанавала даручыць вывучэнне гэтых інцыдэнтаў камісіі, якая была створана па разгляду праблемы незаконнага затрымання дэпутата Знаўца 26 красавіка і якую ўзначальвае Мечаслаў Грыб. Аднак апошні адмовіўся ад гэтага, зазначыўшы, што камісія не паспела выканаць папярэдняе даручэнне парламента.

Старшыня пастаяннай Камісіі па нацыянальнай бяспецы Карпіевіч прапанаваў не ствараць спецыяльнай камісіі па факту падзей 30 мая, а даручыць гэта ягонай пастаяннай камісіі. Аднак гэта ў цэлым не было падтрымана парламентарыямі, 113 з якіх прагаласавалі за стварэнне такой камісіі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

Акрамя таго ўчора беларускі парламент згодна з парадкам дня сесіі разгледзеў папраўкі ў законы аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага і мясцовых Саветаў. Асноўныя прынцыповыя змяненні датычыліся кворуму выбаршчыкаў, неабходнага для прызнання выбараў адбыўшыміся. Нагадаю, што яшчэ папярэдні парламент прыняў норму ў 25 працэнтаў адносна ўдзелу ў першым туры галасавання, адначасова пакінуўшы 50 працэнтаў для другога. Менавіта апошні бар'ер і паспрабавалі знізіць заканадаўцы. Аднак калі для выбараў мясцовых Саветаў гэта дасягнуць удалося без праблем, то для выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета прапанова аб зніжэнні нормы не прайшла. У выніку пытанне было адкладзена на наступны тыдзень. Замест яго парламент прыняў пастанову адносна правядзення дадатковых паўторных выбараў восенню гэтага года: яны павінны адбыцца не пазней канца лістапада.

Напярэдадні Міжнароднага дня абароны дзяцей былі ўнесены і змены ў Закон «Аб парадку ўезду ў Рэспубліку Беларусь і выезду з Рэспублікі Беларусь», якія робяць больш простай працэдуру афармлення дакументаў для выезду за мяжу па гуманітарных лініях дзяцей з няпоўных сем'яў.

Была зроблена спроба вырашыць і кадравыя пытанні — абраць двух членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Гэтае пытанне ўжо даўно абмяркоўваецца ў кулуарах сесіі, але на пленарным пасяджэнні пакуль не ўзнімалася. Справа ў тым, што фракцыі не могуць прыйсці да адзінай думкі адносна кандыдатаў, якія прэтэндуюць на дзве вакантныя пасады. Да гэтага часу найбольш рэальнымі прэтэндэнтамі называліся Л. Сечка, С. Домаш, М. Грыб і В. Саковіч. Аднак учора падчас вылучэння кандыдатур нечакана да ўжо названых дэпутатаў далучыліся І. Цярэшка, А. Малафееў і В. Кебіч. У гэтай сітуацыі старшынствуючы на сесіі Сямён Шарэцкі палічыў за лепшае адкласці канчатковае фарміраванне Прэзідыума для таго, каб параіцца з ужо выбранымі членамі Прэзідыума. Непадрыхтаванай да такога павароту спраў аказалася і фракцыя камуністаў. Таму, дачакаўшыся перапынку, большасць дэпутатаў з палёгкай адклала пытанне на наступны аўторак, калі зноў збярэцца сесія, не правёўшы нават рэйтынгавае галасаванне па кандыдатурах.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# ГІСТОРЫЯ, РАСКАЗАНАЯ Ў 1949 ГОДЗЕ НА НАЧНЫМ ВАКЗАЛЕ Ў СТОЎБЦАХ

МНЕ ПРЫЙШЛОСЯ доўга думаць, перш чым рашыць: пісаць пра гэта ці ўсё ж не варта. З пункту гледжання глабальнай сусветнай гісторыі выпадак з прыватнага жыцця нейкага асобна ўзятага чалавека — гэта нават не імгненне, увогуле нішто, амаль нематэрыяльнае, што нельга ўбачыць ці памацаць рукой.

Але верх узяў іншы аргумент. Мне ён здаецца даволі важкім. А менавіта: у людзей кароткая памяць. Я сказаў бы, у іх наогул памяці няма. Яе замяняюць пачуцці і рэфлексы, як у сабакі Паўлава. Тыпу: лямпачка загарэлася — трэба есці. Да таго ж памяць мае адну цікавую адметнасць. Помніш апошняе; таго, што было раней, ужо не памятаеш.

Што было апошнім? Ну, вядома ж, каўбаса па 2.20. Дзіўна, але людзі, якія выдатна засвоілі гэтую простую «каўбасную» ісціну, забылі чэргі за хлебам, супчык з крапівы; «тройкі», «чорныя вораны» з надпісам «Мяса», голад, пажыццёвыя штаны, забылі «дзесяць гадоў без права перапіскі».

І вось што мне яшчэ дзіўна. Мяне не судзіла «тройка», я не галадаў, мяне не кармілі свінцом на шматлікіх войнах, якія безупынна вяла сацыялістычная Айчына, бо была яна ў перманентнай небяспецы. І вось: чаму я не магу прыняць тое мінулае, чаму мне страшна было б у яго вяртацца, а старыя людзі, якія ўсяго нахлябаліся па вушы, — аб гэтым мараць? Загадка.

Мне захацелася ім што-нішто нагадаць. Гэта прызначана для іх, не для моладзі. Маладыя думаюць, я ведаю, так, як і я. Ім не трэба даказваць, што гарантаваная для ўсіх галеча — гэта горш, чым сённяшні няўстойлівы дабрабыт...

Гэта было праз некалькі гадоў пасля вайны. Адна жанчына ехала са Стоўбцаў, а другая яе праводзіла. Часу было шмат, натуральна, разгаварыліся. Алена, так звалі тую, што праводзіла, расказала гісторыю свайго жыцця. Мне не хочацца прозвішчаў, урэшце, дазволу на публікацыю я не прасіў ні ў кога. Магчыма, Алена яшчэ жывая і ёй будзе непрыемна. Праўда, дакладнасць фактаў гарантую, бо ўсю гісторыю мне расказала тая, другая жанчына, якая ехала з начных Стоўбцаў. Гэта была мая маці. А ехала яна на вяселле. Сваё. Вось такім чынам.

Алена жыла ў Міры. Па нацыянальнасці — полька. Прыгожая, юная дзяўчына, што тут яшчэ можна сказаць. Толькі-толькі скончылася вайна. Усходнюю Еўропу зноў перадзялілі і зноў пачалося вялікае перасяленне народаў. Немцаў выгналі з Сілезіі, гэта Заходняя Польшча. Адпомсцілі, значыць. Гэтак жа, дарэчы, было ў Чэшскіх Судэтах. Нам гэта знаёма.

Але тыя тэрыторыі трэба было засяліць. Вырошчваць хлеб і здабываць вугаль камусьці было трэба ўсё роўна. Карацей кажучы, польскім беларусам дазволілі перасяліцца ў Сілезію. Так дагаварыліся палітыкі.

Паколькі ўсе родныя Алены былі, натуральна, палякі, то вырашылі ехаць. Проста баяліся заставацца ў СССР. Баяліся калгасаў і Сібіры. І тое, і другое не ўяўлялася нечым немагчымым.

Сілезія, расказвала Алена, іх напужала. Правільна, я сам напужаўся б. Заходзіш у дом (дазволена было займаць любы), а там на пліце яшчэ цёплы суп. І ўсе хатнія рэчы на месцы. Нават вопратка і абутак. Я так разумею, немцаў вывезлі раптам, не далі забраць нават неабходнага. Называецца, вока за вока. Вы нас забівалі, вы палілі нашы дамы — атрымлівайце тое ж.

Не бяруся судзіць: правільна гэта ці не. Ва ўсякім разе, нянавісць — не самы лепшы памочнік у падобных развагах.

Вось так сям'я Алены ўсялілася ў чыйсьці дом і стала жыць. У іх гарадку стаяла савецкая часць. Зразумела, знаёмствы, сустрэчы, карацей кажучы, Алена пазнаёмілася з маладым капітанам. Полькі, кажуць, натуры страсныя. Алена ўлюбілася ў капітана без памяці. Бывае такое.

Аднойчы капітан запрасіў Алену да сябе ў госці. Часць стаяла ў маёнтку даволі багатым. Стол арганізавалі па вышэйшаму разраду. Танцавалі, пелі і пілі, усё як мае быць. Ну, а пасля вечарыны здарылася тое, што і павінна было здарыцца: Алена засталася начаваць у свайго бравага капітана.

Шчасце яе, праўда, аказалася кароткім. У хуткім часе часць перадыслацыравалі ў Саюз. Зразумела, разам з капітанам.

Алена доўга не думала. Капітан пакінуў ёй чамусьці свой адрас. Вось Алена і паехала па гэтаму адрасу. Трэба сказаць, савецка-польская мяжа тады была яшчэ адкрытай. Можна было ездзіць туды-сюды без праблем.

Алена знайшла капітана. Была бурная сустрэча. Бурная ў тым сэнсе, што, апрача капітана, Алену сустрэлі ягоная жонка ды двое дзетак. Такія справы.

Што рабіць? Алена пажыла ў капітана пару дзён, паплакала ў падушку і сабралася дадому. Магчыма, так бы гэта ўсё і засталося для яе горкім успамінам на ўсё жыццё. Але тут такая акалічнасць выявілася: мяжу закрылі. Як гаворыцца, мяжа на замку, і Карацупа ходзіць з сабакам.

У Польшчу Алену не пусцілі. І вось тут ужо сапраўды — што рабіць? Савецкіх дакументаў у Алены не было — грамадзянка замежнай краіны. Жытла няма. Нічога няма. Хоць у пятлю лезь. Дзякуй Богу, у Міры засталася стрыечная сястра, Алена паехала да яе.

Сястра яе прыняла. Але Мір — мястэчка маленькае. Ледзь не ў той жа дзень органам стала вядома, што прыбыла прамая кандыдатка на будоўлі сацыялізму. І пачалося...

Тады на Заходняй Беларусі было неспакойна. У лясах пастрэльвалі. Раз-пораз здараліся налёты «лясных братоў» на вёскі. Здаецца, работы ў НКУС павінна было хапаць. Тым не менш, за Алену ўзяліся ўсур'ёз. Кожную ноч яе выклікалі на допыт у «кантору». Пытанні былі стандартныя: калі завербавалі? хто? на якую разведку працуе? якое атрымала заданне? якія сувязі? Так працягвалася месяц. Днём Алена адсыпалася, а ноччу — на допыт.

Словам, можна было б лічыць, што лёс яе ў прынцыпе вырашаны. Расстраляць бы не расстралялі, а не менш як 5 гадоў далі б. Ды ўмяшалася сястра. Уласна, яна і выцягнула Алену з кіпцюроў НКУС. Сястра Алены, разумееце, займалася крыху незаконнай справай: выраб-ляла самагон на продаж. Зразумела ж, кантакт з органамі нейкі мела. У органах таксама людзі працуюць, прычым пераважна мужчынскага полу.

Колькі самагону байцам нябачнага фронту перанасіла сястра Алены — гісторыя замоўчвае. Але Алену нарэшце пакінулі ў спакоі. Больш таго, нават выпісалі пашпарт. Аб вяртанні ў Польшчу ўжо нават не думалася. Бацька, маці, браты і сёстры, дзе вы? За што ёй гэта?

Аднак жыццё ёсць жыццё. Яно працягвалася сваім ходам. Трэба ж такому здарыцца: Алена зноў сустрэла ваеннага, палюбіла, неўзабаве згулялі вяселле. Сталі жыць. Не скажу што вельмі шчасліва, але жылі спакойна. Да пары, пакуль муж Алены не вырашыў наведаць роднага брата.

Брат быў ваенным маракам. Ледзь не капітанам першага рангу. Браты сустрэліся, абняліся, як прынята, распілі бутэлечку-другую, разгаварыліся. Тут і даведаўся капітан першага рангу, што за жонка ў брата. І схапіўся за галаву. А потым горача пачаў упрошваць брата: кінь ты яе як мага хутчэй! Ты ж сваю кар'еру загубіш! На табе ж крыж паставяць! Ну і гэтак далей.

Угаворы мелі свой вынік. Алена зноў засталася адна. Нікому, па вялікаму рахунку, непатрэбная ў гэтай краіне. На ёй як бы кляймо паставілі. Далібог, была хоць работа, з голаду было дазволена не паміраць...

Але, відаць, была Алена ўсё ж жанчынай вельмі прывабнай, я так разумею. Бо муж да яе вярнуўся. Плюнуў на кар'еру. Тут ён малайчына. Ды вось цікава: была б яго жонка не такая прыгожая, што тады?

Далейшае жыццё Алены мне невядома. Спадзяюся на лепшае і мяркую прыкладна так. Пасля смерці «вусатага», пасля XXII з'езда, ужо было лягчэй. Можна было з'ездзіць за мяжу. Мажліва, Алена змагла ўрэшце сустрэцца з бацькамі і роднымі. Дай Божа!..

Зараз тыя, хто ходзяць з чырвонымі сцягамі і партрэтамі «вусатага» па пралетарскіх святах, гавораць: саджалі і расстрэльвалі ворагаў. Іх, маўляў, хапала. Ну, добра, дапусцім. Але вось Алена... Як быць з ёю? Яна таксама вораг? Вы ж бачыце, проста ахвяра кахання, звычайная жыццёвая сітуацыя, ніякай тут класавай барацьбы. Дык за што яна зведала пакуты, якіх і ворагу не пажадаеш? Чаму яе разлучылі з бацькамі, пазбавілі сапраўднай радзімы? За што ёй на ўсё жыццё паставілі кляймо?

Вось і ўсё, што я, уласна кажучы, хацеў спытаць.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*СІТУАЦЫЯ*

# ЯК ЛЕДЗЬ НЕ ПАЗБАВІЛІ ТЫСЯЧЫ ГРОДЗЕНЦАЎ ЛЕТНЯГА АДПАЧЫНКУ НА ВОЗЕРЫ ЮБІЛЕЙНЫМ

Далёка не кожнаму і раней, і сёння па кішэні паехаць у Крым да сонца, вады і чыстага марскога паветра. Адпачыць жа паблізу ад дому жыхарам Гродна таксама няпроста, паколькі «здароўе» бацькі-Нёмана, мякка кажучы, не самае лепшае. Што ж датычыць іншых вадаёмаў, дык спецыяльна прыстасаваных для адпачынку месцаў пад бокам у абласнога цэнтра няшмат.

Можна сказаць, такое месца адзінае — возера Юбілейнае. Яно добра вядома многім пакаленням гродзенцаў. Зразумела, якасць вады ў Юбілейным далёка не ўзорная. І ўсё ж ёсць відавочныя плюсы. Да возера недалёка дабірацца. Сфера паслуг для адпачываючых хоць і не вельмі разнастайная, але прысутнічае. Пазагараў — можна прагуляцца па лесе. Альбо, адышоўшы далей ад купальшчыкаў, закінуць вуду. Дарэчы, размешчаныя ў лясным масіве базы адпачынку дзетвары без Юбілейнага наўрад ці былі б такія папулярныя.

А цяпер — па сутнасці ўзнікшай праблемы. Аказваецца, тое, да чаго тысячы людзей прызвычаіліся за дзесяцігоддзі, можна вельмі лёгка страціць. Прычым без усякіх прыродных катаклізмаў.

...Намеры былі, як заўсёды, самыя высакародныя. Дамба на возеры патрабуе рамонту — гэта бясспрэчна: ёсць адпаведнае заключэнне экспертнай камісіі. Аднак відавочна і тое, што кожную справу трэба належным чынам падрыхтаваць. Тут жа...

Па словах старшыні Гродзенскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя П. Путро, у гарадскога аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі, у чыім веданні Юбілейнае, акрамя намераў, не было нічога. Гарантыі наконт фінансавання рамонту (а сродкі патрабуюцца немалыя) адсутнічалі, яснасці з падраднай арганізацыяй таксама не мелася. Дзе ўзгоднены з прыродаахоўнымі органамі графік работ? Няма. Колькі часу пройдзе, пакуль возера зноў запоўняць вадой — год, два, пяць? Невядома. Тым не менш аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі, не сустрэўшы ніякіх пярэчанняў з боку Гродзенскага раённага савета таварыства паляўнічых і рыбаловаў, якое мае на Юбілейным лодачную станцыю, распачынае аперацыі па разбурэнню дамбы. На якой падставе? Маўляў, ёсць дазвол рыбінспекцыі. «Але ж гэта санкцыя, — гаворыць П. Путро, — была дадзена толькі на паніжэнне ўзроўню вады ў сувязі з магчымай паводкай. Поўнае асушэнне возера не дазвалялася».

Між тым, усё ішло менавіта да гэтага. Ужо знялі два бервяны са шлюза, вада пачала метраў на 15—20 адступаць ад берага. І гэта — у самы разгар нерасту рыбы. Па словах Пятра Васільевіча, для яе ўжо былі гатовы сеткі. Аднак колькі малькоў пры гэтым бы загінула?!

Толькі дзякуючы званку ад сведак гора-рамонту эколагі паспелі ўмяшацца і спыніць знішчэнне патомства карася і карпа, а таксама здзек над тысячамі людзей, якіх, толкам не падрыхтаваўшы аднаўленчыя работы, пазбавілі б летняга адпачынку ля возера. Хаця, зразумела, дамбу рамантаваць трэба. І адпаведны дазвол эколагі, вядома ж, дадуць. Але толькі тады, калі будуць вызначаны цвёрда гарантаваныя крыніцы фінансавання і тэрміны правядзення работ. Гэта не капрыз, не прыдзіркі, а нармальная практыка. Шкада, але з вышэйпамянёным «прафесіяналізмам» нам яшчэ доўга не ўбачыць нармальнага.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ*

# НЕ ДАЙ БОГ ЗЛАМАЦЬ НАГУ І ПЛАЦІЦЬ АЛІМЕНТЫ...

***«Я маю нерэгулярны заробак і ўсё ж выплачваю аліменты спаўна: 200 тысяч рублёў у месяц. Са сваім абавязкам заўсёды спраўляўся. Але вось ужо хутка тры месяцы як я не працую — зламаў нагу. Самі разумееце, якія ў мяне цяпер грошы. Судовы ж выканаўца патрабуе кожны месяц пасылаць іх былой жонцы. За што мне жыць?»***

— Дзеянні судовага выканаўцы законныя, і ён не можа вызваліць вас ад абавязкаў плаціць аліменты. Але ён мог, зразумела, вам параіць звярнуцца з заявай у суд і папрасіць спыніць налічваць аліменты на час вашай непрацаздольнасці. Такое правіла прадугледжана арт. 88 Кодэкса аб шлюбе і сям'і.

# МОЖА ВЫКАНКОМ ПОЙДЗЕ НАСУСТРАЧ

***«Тры гады таму я атрымала аднапакаёвую службовую кватэру і ў хуткім часе была звольнена па скарачэнню штатаў: падышоў пенсіённы ўзрост. З кватэры мяне не выселілі, але і прыватызаваць не даюць. Я знаходжуся на ўліку на атрыманне жылля, аднак амаль упэўнена, што нармальную кватэру да канца жыцця не атрымаю. Як быць у такой сітуацыі?»***

— Сапраўды, Закон «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» (арт. 5) устанаўлівае, што службовыя жыллёвыя памяшканні не падлягаюць прыватызацыі. Але калі такую кватэру перавесці ў разрад неслужбовых, то тады прыватызацыя магчыма. А перавесці яе ў новы разрад можа толькі выканком, прычым той жа, які прымаў у свой час рашэнне ўключыць яе ў лік службовых.

Выйсце тут застаецца адно: звярніцеся, калі ласка, з заявай у свой выканком, магчыма, і вам пойдуць насустрач. Тым больш, што выселіць вас без прадастаўлення іншай жылой плошчы не могуць. І калі ў бліжэйшай будучыні вы не атрымаеце жылля згодна з чаргой, то і сэнс лічыць такую кватэру службовай таксама будзе страчаны.

**Наталля ДОЎНАР,**
**юрыдычны кансультант «Звязды».**

*ПАСЛЯ ЗДАРЭННЯ*

# ТРАГЕДЫЯ Ў ГОРКАХ. ЦІ АПОШНЯЯ?

У ГОРКАХ адбылося здарэнне, якое магло каштаваць двух жыццяў. Маладая гаспадыня выгульвала сабаку. Той раптоўна знік. Апынуўся каля школы і... напаў на групу школьнікаў малодшых класаў. Накінуўся на дзяўчынку, якая, між іншым, яго нават не бачыла, і пачаў яе кусаць. Выратаваць школьніцу паспрабавала настаўніца, але і яна стала ахвярай раз'юшанага звера. Ён і дарослую жанчыну імгненна паваліў на зямлю і не даваў падняцца ні ёй, ні дзяўчынцы. Кусаў па чарзе абедзвюх.

Трагедыя працягвалася да таго часу, пакуль не прыехала міліцыя. Спатрэбілася зрабіць тры выстралы ва ўпор, каб «супакоіць» чатырохнагага «сябра».

Першая куля, трапіўшая, дарэчы, у чэрап, зрыкашэціла. Таму што быў гэта не які-небудзь дварняк, а бультэр'ер. «Магілёўскія ведамасці», якія паведамілі падрабязнасці, прывялі цікавыя звесткі. Аказваецца, гэта менавіта тая парода, якая спецыяльна была выведзена для сабачых баёў. Адрозніваецца звышмагутнымі сківіцамі і паніжаным болевым парогам. Такой пачвары загубіць чалавека — нішто.

Адбыўся гэты страшэнны выпадак літаральна праз некалькі дзён пасля таго, як «Звязда» надрукавала заметку «Сабака — лепшы сябар, але як для каго» (04.04.96).

Цяпер я гляджу на рэагаванне і думаю: няўжо «накаркаў»? Або гэта такая наша дрымучая звычка — пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца?

Начальнік упраўлення камунальнай гаспадаркі Магілёўскага гарвыканкома спадар Платоненка паведамляе, што на тэрыторыі ЖЭУ-19 вызначаны дзве пляцоўкі для выгульвання сабак — па вуліцах Чырваназорнай і Прафсаюзнай. Што да першай, дык там якраз абсталявалі аўтобусны прыпынак. Паспрабуйце там пастаяць, скажам, суботнім вечарам. Ведаеце, не зайздрошчу. Выгульваюць сваіх ваўкаватых любімцаў без павадкоў і наморднікаў, якія лічацца рэчамі абавязковымі. Няхай бы кудлатых пакаёвых, аднак што ні сабака, то — цяля.

Агульнавядома, што аўчарку, напрыклад, трымаць у кватэры нельга. У абмежаванай прасторы яна пачынае з цягам часу дурнець, паводзіць сябе непрадказальна. Сабакаўладальнікі, тым не менш, лічаць прэстыжным абзаводзіцца менавіта такой пародай, пажадана каўказскай. Разлік просты — адпужваць зладзеяў. Але гэтыя вартаўнікі хатніх скарбаў ужо самі робяцца небяспечнымі. Кійком ад іх не адбіцца, а ўцякаць не спрабуй: «навучваюць» сабак менавіта на чалавека.

Чаму спецыялісты не хочуць бачыць гэтай праблемы?

У гарадах, дзе не катэджы з лужкамі, а пераважаюць цесныя шматпавярхоўкі, наогул не павінна быць ні бультэр'ераў, ні аўчарак, ні бульдогаў. Давайце хоць бы паклапоцімся пра жывёл. Шкада ж, не тыя для іх умовы. А выключэнне няхай складаюць асобы, каму жывая «зброя» неабходна па службе, — скажам, міліцыя.

Пра бадзяжных трэба сказаць асобна. Па-нармальнаму, кожнага сабаку, які ў дадзены момант знаходзіцца на вуліцы без гаспадара, трэба лічыць такім з усімі адсюль вынікамі. Дык вось. У той жа Казіміраўны падобных «бадзяжных» 99 са 100. Калі не страшна, няхай бы кампетэнтныя камунальнікі схадзілі і палічылі.

І другі бок медаля, а дакладней, іншая крайнасць.

Ідыётаў зараз хапае. Як і садыстаў. Адкуль яны бяруцца? Падобна, іх выхоўваюць свядома. Узаконена. З таго ж паведамлення Платоненкі са здзіўленнем даведаўся, што бадзяжных сабак і катоў прымаюць ад насельніцтва за грошы. Я вось ішоў днямі праз сквер і думаў, што нарваўся на маньяка. Насустрач — ці паверыце — чалавек яўна не ў сабе. Постаць напружаная, ідзе прама на мяне, але не заўважае. Раптам ён скокнуў. З-пад куста чаромхі выцягнуў коціка і той ледзь паспеў мяўкнуць.

А Мікалай Лапацік — начальнік упраўлення ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкома — занепакоены тым, як бы засцерагчыся ад кадраў, якія ідуць на работу ў міліцыю, падпарадкоўваючыся нездароваму імкненню здзекавацца. «Душыць катоў» — ці не такіх шарыкавых самі ж выхоўваем?

Тэма, разумею, спрэчная, і канструктыўных прапаноў у мяне, на жаль, няма. Праблема, аднак, характэрна не толькі для Магілёўшчыны. У Мінску прыкладна такое ж сабачае «бязмежжа». Пытанне, без перабольшання, набывае маштабы нацыянальнага бедства, бо хатняя гарадская жывёла не толькі кусаецца, але і разносіць інфекцыі, як ніякі іншы перадатчык хвароб.

Што датычыць сентыментальных аматараў жывёльнага свету, — хто ж супраць? Аднак на ўсё павінны быць разумныя межы.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

**P. S. Яшчэ адно здарэнне, якое пацвярджае, што да буйных сабак, асабліва вышэйназванай пароды бультэр'ераў, трэба ставіцца вельмі сур'ёзна і не рабіць ніякіх паслабленняў у правілах іх утрымання.Было гэта ў канцы зімы, і сведкамі здарэння былі людзі, што стаялі на прыпынку грамадскага транспарту па вуліцы Адоеўскага ў Мінску. Непадалёк рослы дужы мужчына выгульваў бультэр'ера. Быццам бы «па правілах» — сабака ў металічным намордніку, трывалы павадок гаспадар (падкрэсліваю — дужы, рослы!) трымаў у руцэ. Адно не па правілах — у людным месцы. Раптам сабака чамусьці кінуўся на нейкага мужчыну, які спакойна, як кажуць, ціха-мірна праходзіў міма. Ад нечаканасці мужчына спачатку разгубіўся, а потым ледзь паспеў ускочыць у пад'езд жылога дома.**

**Сабака, які кінуўся на яго, рыўком паваліў свайго гаспадара долу і працягнуў метраў пятнаццаць (!) па тратуару. З цяжкасцю гаспадар утаймаваў свайго любімца.**

**Можна ўявіць, што было б, калі сабака быў не ў намордніку ці калі б павадок раптам не вытрымаў, парваўся...**

**Валянцін НАЛІМАЎ.**

**У «СОВЕТСКОМ энциклопедическом словаре» ёсць артыкул, прысвечаны Міжнароднаму жаночаму дню, але няма ніякай інфармацыі адносна Міжнароднага дня абароны дзяцей. Калі ён быў прыдуманы, гэты дзень, і кім? Чалавекам сямейным ці адзінокім? Ці былі ў яго дзеці? І чаго хацеў ён, чалавек, які надумаў абвясціць Дзень абароны дзяцей?**

1 ЧЭРВЕНЯ — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ

# БЭЗАВЫ СМОЎЖ

РАКУШКА ТІМ

Дзень быў выбраны вельмі ўдала. Пачатак сонечных канікулаў. Пачуццё захаплення, якое запаланяе кожнага школьніка ў гэту раніцу, незабыўнае для кожнага дарослага. Таму з дзяцінства памятаеш яго. Праўда, тады свядомасць упускала адно слова ў назве. І толькі цяпер, раптам, выяўляеш гэта слова і задаеш пытанне: «Абароны ад каго і ад чаго?» А таксама адкрываеш для сябе, што гэта — не свята.

***

Год назад сярод знаёмых хадзіў анекдот пра аднаго хлопца, які ледзь не ажаніўся, ды дзяўчына яго зрабіла аборт. Неабходнасць жаніцца адпала, хлопец застаўся халасцяком, але самае пікантнае ў гэтай гісторыі было тое, што аборт дзяўчына зрабіла ў Міжнародны дзень абароны дзяцей.

Дарэчы, у Дзень салідарнасці працоўных аборты не робяць.

***

Маладая жанчына чакае ля ўваходу ў паліклініку знаёмага ўрача, ён падыходзіць да яе і пытаецца: «Ну што?» Яна моўчкі працягвае яму невялікі лісток паперы. Доктар чытае, потым глядзіць на яе і гаворыць:

— Трэба чысціць.

— Але яно ж жывое... — вочы жанчыны раптоўна чырванеюць.

— Хто? — раздражнёна пытаецца доктар.

— Дзіця, мне сказалі, я спытала і мне сказалі — яно жывое...

— Ну дык давай, кладзіся ў бальніцу, каб захаваць яго.

— Не, я не магу, у мяне маленькае дзіця...

— Дык што?

— Можа, няхай застаецца так, як ёсць...

— Ну тады бывай.

— Скажыце, — зноў чапляецца жанчына, — калі я пакіну і данашу дзіця, усё будзе нармальна?

Урач зноў глядзіць жанчыне ў твар: «Яна табе патрэбна, гэта цяжарнасць?» Жанчына нейкі час маўчыць. «Не», — вымаўляе яна, зразумеўшы, што размова скончана.

***

Бацькі крычаць на сваіх дзяцей і б'юць іх з-за ўласнай слабасці. У адчаі, ад бяссілля. І з-за любові. Вядома, дзецям варта было б разумець, што ў падобнай сітуацыі бацькоў трэба шкадаваць. Але дзеці разумеюць: тое адзінае, што абараняе іх у гэтым свеце, раптам само абрушваецца ўдарамі і наносіць боль. У адказ — дзеці скурчваюцца. У іх мяняецца постаць, рухі, вочы, голас. І бацькі, натыкаючыся на ракавіну, у якой яны самі ж прымусілі дзіця закрыцца, упадаюць у новае кола лютасці. І толькі Бог тут дапаможа дзіцяці. Аднойчы шасцігадовы хлопчык, які хвілін трыццаць выслухоўваў чарговае «справядлівае» абурэнне раздражнёных бацькоў, раптам сказаў: «Пачакайце, я зараз прыйду», і пайшоў у іншы пакой. Маці з бацькам нейкі час не маглі нават пераглянуцца, раптам спыненыя: яны баяліся ўбачыць вочы адзін аднаго. Яны вельмі любяць хлопчыка. Ён вярнуўся з аркушам паперы, на якім бэзавым фламастэрам быў намаляваны смоўж. Смоўж усміхаўся незвычайна добрай усмешкай. «Ты зараз гэта намаляваў?» — спытала ўзрушаная маці.

***

У маленькім пасёлку ўсе адзін пра аднаго ўсё ведаюць. Вядома, напрыклад, што дваццаціпяцігадовая Лена К., маці-адзіночка чатырохгадовага Мікіткі, нарадзіла дваіх наступных дзяцей на продаж. За апошняе дзіця, дзяўчынку, яна атрымала 23 мільёны. Збіраецца купіць кватэру.

***

У суседкі на пляцоўцы нарадзілася неданошанае дзіця. Праз год высветлілася, што хлопчык амаль сляпы, таму што сятчатка вачэй яго была абпалена лямпамі ў інкубатары, дзе ён знаходзіўся ў раддоме.

***

Сын засынае, пяшчотна абняўшы бутэлечку з малаком. І маці ведае напэўна, што няма нічога больш цудоўнага. І не бывае шчасця больш глыбокага.

***

Нашы дзіцячыя дамы (некаторыя) іншы раз праводзяць Дні адкрытых дзвярэй. Але ўвогуле гэта наглуха закрытыя ўстановы. Часцей за ўсё яны знаходзяцца дзе-небудзь на малазаселенай ускраіне горада, абнесеныя высокім плотам, за які іншым уваход забаронены. Дарослае насельніцтва дзіцячых дамоў і дамоў дзіцяці звычайна вельмі раўніва ахоўвае свой ізаляваны свет, у якім пакінутыя або адабраныя дзеці вымушаны знаходзіцца з першых дзён жыцця да юнацкіх гадоў. Гэтыя дзеці накормленыя, чыста апранутыя, прывітыя ад воспы і коклюшу, дарэчы, усё роўна коклюшам перахварэўшыя. Але яны не ўмеюць кампасціраваць праязныя талоны ў аўтобусе, ніколі не бачылі заварачнага чайніка, качалку для раскачвання цеста, пра метро ім толькі расказвалі. Яны не прывіты, не абаронены ад нашага звычайнага жыцця, таму, трапіўшы ў яго раптоўна, яны губляюцца, наш свет для іх чужы і невыносна складаны. Выкінутыя са свайго гета выхаванцы інтэрнатаў не вытрымліваюць жыццёвых выпрабаванняў і часта зноў трапляюць у закрытыя ўстановы, або гінуць. Якая ж на самай справе неабходнасць ізаляваць дзяцей-сірот, дзяцей-інвалідаў ад мас? Хіба і нашы спешчаныя дзеці не набудуць ад таго, што ў школе з імі за адной партай будзе сядзець дзіця ў інвалідным крэсле?

Свет разнастайны і створаны не намі. Але мы штучна робім адбор і перапоўненыя глыбокім пачуццём перавагі, адгароджваемся ад тых, каму, на нашу думку, пашанцавала менш. Гуляем у гульню: «Іх няма». З дзецьмі.

***

Стаўрапальскае тэлебачанне зрабіла перадачу, прысвечаную трагедыі ў Будзёнаўску. Дакументальныя здымкі тых падзей чаргуюцца з расказамі дзяцей, якія былі сярод заложнікаў. Дзеці расказваюць аб тым, дзе яны хаваліся, што елі, што бачылі. Для большасці з іх усё гэта — добра перажытыя прыгоды. Толькі адзін хлопчык, у якога забілі маці, гаворыць больш за ўсіх, з нейкім дзіўным, нездаровым задавальненнем. Ён хоча выгаварыцца, але слоў яму не хапае, чорны боль, які асеў у яго душы, не выказваецца ў словах, быццам зацэментаваўся там намертва. У канцы перадачы журналістка пытаецца ў дзяцей: ці здольны яны забіваць іншых людзей?

***

Аднойчы мой сын сказаў наступнае: «Я памятаю, як жыў у цябе ў жывоціку. Калі мне было чатыры, я ўсё думаў, што гэта я такое памятаю, а цяпер, калі мне шэсць, я зразумеў, што гэта тое, як я быў у цябе ў жывоціку. Там цёмна і цёпла. Я ляжаў вось так. Не зусім ляжаў, і не сядзеў, а як бы лятаў. Не, мне нічога не снілася. Але было падобна на гульню. Як у шахматы. Так, мне там было добра. А як нарадзіўся, я не памятаю. Здаецца, усе расступілася і стала вельмі светла. Потым памятаю дом, ну там, у бабулі». Яшчэ ён мне неяк сказаў, што жыць вельмі цяжка, што ў жыцці вельмі многа дрэннага. Ён любіць пытацца пра старажытныя часы, як людзі жылі тады, чым лепш ці горш за нас. А калі мы збіраемся ў дарогу, ён скрупулёзна высвятляе, які шанц выратавацца ў выпадку авіякатастрофы і наколькі бяспечней ехаць цягніком.

***

У Расіі ідзе вайна. Пра чачэнскіх дзяцей чамусьці ніхто не гаворыць. Іншы раз у газетах прамільгнуць фатаграфіі хлопчыкаў з аўтаматамі. Без тэкстоўкі. Цікава, якія пытанні задаюць там чатырох-, пяцігадовыя дзеці сваім маці? Можа быць, такога кшталту: які шанц выратавацца пры прамым пападанні снарада ў іх дом? Ці можна ездзіць на веласіпедзе без ног? Або — калі яны змогуць вярнуцца туды, куды ім ужо ніколі не вярнуцца? Дарэчы, ці задаюць пытанні дзеці вайны, якія ведаюць пра жыццё і смерць больш, чым я?

***

Дзеці — дзіўныя істоты. Яны прыходзяць у гэты свет няпроста. У іх увасабленне Боскай мудрасці. І ні ў чым больш не спалучаецца так гарманічна сіла і бездапаможнасць. Сіла і чысціня. Няздольныя валодаць уласным целам, яны стараюцца прабрацца да нас праз 10-сантыметровую адтуліну, наперад галавой і ручкай яны ўкручваюцца падобна да свярдзёлка, адтуль, з Раю, сюды, у хаос і мітусню. І, выдатна справіўшыся з гэтым, яны поўныя светлай упэўненасці, што ім пад сілу ўсё астатняе. Калі паўтарагадовы хлопчык не можа ўставіць ключ у замок, ён моцна абураецца, але не пакідае сваіх спроб. Нас забаўляе гэта настойлівасць. Нейкі час. Але рана ці позна мы вырашаем, што дзіця пара «выхоўваць». Спачатку мы, карыстаючыся сваёй фізічнай сілай, расціскаем яго пальчыкі, каб адабраць які-небудзь востры, рэжучы прадмет. Потым сілай надзяваем на яго цёплыя штаны, праводзячы гэту працэдуру з плескачамі, потым, плачучага, зацягваем яго ў дзіцячы сад, пакідаем там, спешна збягаючы па лесвіцы прэч. Мы паступова і планамерна забіваем у сваіх дзецях тую сілу, з якой яны прыйшлі да нас. Сілу, якая дадзена не намі. І робім іх падобнымі да сябе.

***

У наш век экалагічных катастроф пачалі з'яўляцца на свет экалагічныя дзеці. Так называюць дзяцей, народжаных у моры. А таксама ўсіх водных дзяцей, гэта значыць тых, якія народжаны мякка — у вадзе, хатняй ванне, або ў надзіманым басейне. У Мінску каля трыццаці такіх дзяцей. Людзі, знаёмыя з імі, сцвярджаюць, што ў гэтых дзяцей захавана сувязь з усім жывым на гэтай планеце. Боль, які адчуваюць раненыя або палонныя дэльфіны ў Чорным моры, водныя дзеці адчуваюць як свой уласны боль. Экалагічным дзецям ніколі не прыходзіць у галаву думка раздушыць насякомае, закідаць каменнем жабу, абламаць галінкі ў дрэва. Бо яны, дзеці, адчуваюць сябе часткай адзінага цэлага — прыроды. Гэтым дзецям вельмі цяжка.

***

Дзеці маглі б выратаваць нас, калі б мы змаглі абараніць іх.

***

Неўрапатолаг Рэспубліканскага дзіцячага дыягнастычнага цэнтра заўважае, што дзяцей, якія пакутуюць ад нервовага ціку, становіцца ўсё больш. «Яго (або яе) цік — гэта вы, — гаворыць яна бацькам, — вашы адносіны да дзіцяці, абстаноўка ў сям'і, дома. Вам здаецца, што ўсё нармальна, у вас добрая сям'я, але ваша дзіця пакутуе і нервовая сістэма сігналізуе аб гэтым. Магчыма сакрушальны ўдар вы нанеслі калісьці даўно, так, што ўжо і не ўспомніце, з першым вашым гневам, або з першым падманам. Нервовая сістэма ў цяперашніх дзяцей вельмі слабая, дзеці хутка страчваюць здольнасць да самаабароны. Створаную пустату залатаць, залізаць неверагодна цяжка». Неўрапатолаг прапісвае дзецям транквілізатары, заспакаяльнае і вітаміны. Вясной і восенню нервовыя расстройствы аднаўляюцца з новай сілай.

***

Апісаць іх немагчыма, як немагчыма апісаць боскае, цудоўнае. Але каб зразумець, што я хачу сказаць, дастаткова паглядзець на дзіця, якое бяжыць, ды проста на тое, як яно рухаецца, на яго ножкі, босыя, тоўсценькія, дзёрзка і бясстрашна тупаючыя па зямлі, на яго ручкі, якія матляюцца неяк у бок, смешна і наперакор усякім законам аэрадынамікі, на яго запэцканы тварык, які зззяе, быццам сонца, на яго валасы, што ляцяць, як светлы арэол...

**Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА.**

# ДОБРЫЯ ДЗЕЦІ ПРАПАСЦІ НЕ МОГУЦЬ. АЛЕ Ж ГУБЛЯЮЦЦА Ў СКЛАДАНАСЦЯХ СУЧАСНАГА ЖЫЦЦЯ

Намеснік міністра адукацыі і навукі Генадзь Дылян паведаміў некаторыя вынікі работы па выкананню нацыянальнага плана дзеянняў па абароне правоў дзіцяці. Дарэчы, гэты план быў зацверджаны ўказам Прэзідэнта 19 красавіка мінулага года. А зараз разглядаюцца праекты ўказаў Прэзідэнта аб стварэнні спецыяльных органаў абароны дзяцінства і аб дадатковых мерах па паляпшэнню жыццядзейнасці дзіцячых інтэрнатаў і спецыяльных устаноў. Разглядаецца таксама пытанне аб далучэнні Беларусі да Гаагскай канвенцыі па абароне дзяцінства.

— Вялікую трывогу, — адзначыў Генадзь Дылян, — выклікае праблема сацыяльнага сіроцтва. За 1995 год выяўлены больш як 4 тысячы патэнцыяльных сірот, што ў тры разы болей, чым у 1990 годзе. Адабрана ў бацькоў са стратай бацькоўскіх правоў і без іх 2900 дзяцей. Гэта ў 3,9 раза больш, чым у 1990 годзе.

Таму гэтым дзецям — асноўная ўвага: за мінулы год адкрыты 2 дзіцячыя дамы змешанага тыпу і дзве дзіцячыя вёскі. Змяншаецца колькасць жадаючых узяць сірату да сябе на выхаванне. Так, у Гомельскай вобласці такіх сем'яў толькі восем. Асноўная прычына, вядома, звязана з грашыма, бо датацыя на такое дзіця ва ўзросце ад трох да васемнаццаці гадоў складае 5,9 працэнта мінімальнага спажывецкага бюджэту, а да трох гадоў — 11,2 працэнта. На гэтыя грошы пражыць зараз немагчыма. Дзяржаве ж кожнае дзіця ў дзіцячым доме абыходзіцца ў 20 мільёнаў за год.

Генадзь Дылян пажадаў дачакацца таго часу, каб неабходнасць у Дні абароны дзяцей знікла сама сабой, як рудымент мінулых гадоў.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Гарачыню дрэнна пераносяць не толькі людзі, але і жывёлы. У заапарку амерыканскага горада Сан-Францыска служачым прыходзіцца змазваць вушы кенгуру-альбіноса проціапёкавым крэмам. Праўда, далікатная скура гэтых кенгуру абгарае нават і не ў сонечнае надвор'е.

**Асашыэйтэд Прэс.**

Аднаго з найбольш аўтарытэтных начальнікаў англійскай паліцыі, які імчаўся са скорасцю 150 кіламетраў у гадзіну, затрымалі яго ж падначаленыя. Нягледзячы на тое, што яго тут жа пазналі, шэфа паліцыя аштрафавала на 30 фунтаў стэрлінгаў. Мясцовы друк у Англіі пасля гэтага выпадку выказвае сумненне ў паспяховасці прасоўвання па службе прынцыповых паліцэйскіх.

**ЭКСТРА-ПРЭС.**

Хто ж усё ж такі найлепшы сябар чалавека? Спецыялісты Мельбурнскага навукова-даследчага медыцынскага інстытута лічаць, што гэта — свінні. Яны вызначылі, што для замены хворых чалавечых органаў цалкам падыходзяць свінныя сэрца, печань, ныркі, лёгкія і падстраўнікавая залоза. Таму ў Аўстраліі ўжо пачалі разводзіць генетычна здаровых свіней з мэтай выкарыстання іх унутраных органаў для перасадкі людзям. Толькі месцазнаходжанне такіх свінафермаў знаходзіцца ў тайне — з-за страху перад гневам таварыства аховы жывёл, а не чалавека.

**ІТАР-ТАСС.**

# КУДЫ ЗБЕГ ТАТА?..

Бяда, калі распадаецца сям'я. З-за памылак бацькоў, вядомага «не сышліся характарамі» пакутуюць дзеці. Яны хочуць мець маці і бацьку, хочуць бачыць у іх надзейную апору ў жыцці, каб у радасці і шчасці праходзіла іх дзяцінства. А замест гэтага свайго справядлівага жадання атрымліваюць горкую долю.

У 1995 годзе пашпартна-візавай службай УУС Мінгарвыканкома за ўхіленне ад уплаты аліментаў вышукваліся 887 чалавек, устаноўлена месцазнаходжанне 829 чалавек. На працягу чатырох месяцаў 1996 года ў вышуку знаходзіліся 450 чалавек.

Колькасць вышукваемых асоб з году ў год не змяншаецца. Пры правядзенні вышуковых мерапрыемстваў неплацельшчыкі аліментаў устанаўліваюцца не толькі ў розных кутках нашай рэспублікі, але і ў іншых краінах СНД. Толькі ў апошні час знойдзены неплацельшчыкі аліментаў: Алег Віктаравіч Скібін — у Запарожскай вобласці, Іван Браніслававіч Бабарыка — у Бранскай вобласці, Ігар Васільевіч Бруеў — у Рэспубліцы Малдова, Генадзь Аляксандравіч Барыскін — у Тульскай вобласці, Уладзімір Міхайлавіч Еўдакімчык — у Цюменскай вобласці. За злоснае ўхіленне ад уплаты аліментаў арт. 120 Крымінальнага Кодэкса РБ прадугледжвае адказнасць да двух гадоў пазбаўлення волі.

У 1995 годзе РАУС г. Мінска расследаваны і накіраваны для разгляду ў суды 354 крымінальныя справы на асоб, якія злосна ўхіляюцца ад уплаты аліментаў.

Аднак гэта належнага ўздзеяння на асоб, што ўхіляюцца ад уплаты аліментаў, не аказвае. Толькі ў 1995—1996 гадах чатыры разы вышукваліся неплацельшчыкі аліментаў І. Г. Крук, Н. Г. Шушкет; па 3 разы — Н. А. Сімакова, А. І. Сакалінскі, А. С. Корзун і інш.

Так, нялёгкі час перажывае наша рэспубліка. Цяжка даводзіцца маці-адзіночкам гадаваць дзяцей, калі іх былыя мужы спакойна разгульваюць па краінах СНД, не аказваючы матэрыяльнай дапамогі на выхаванне родных дзяцей.

**Яўген ХАЖАВЕЦ,**
**супрацоўнік АПВС УУС Мінгарвыканкома.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск — | 4.44 | 21.30 | 16.46 |
| Віцебск — | 4.27 | 21.28 | 17.01 |
| Магілёў — | 4.34 | 21.19 | 16.45 |
| Гомель — | 4.38 | 21.09 | 16.31 |
| Гродна — | 5.00 | 21.45 | 16.45 |
| Брэст — | 5.10 | 21.36 | 16.26 |

### МЕСЯЦ

Поўня 1 чэрвеня

### ІМЯНІНЫ

Пр. Дзімітрыя Данскога, Іаана.
К. Юсціна, Анэлі.

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 19—21, Мінску і Гомелі — 20—22 градусы, Гродне — 22—24, Брэсце —23—25 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак без змен. Тэмпература ўначы — 9—14, удзень — 22—27 градусаў цяпла.

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# «...і матэматыку патрэбна Радзіма...»

**Інтэрв'ю Уладзіміра Платонава «Я не збіраюся ні перад кім апраўдвацца, але катэгарычна сцвярджаю адно — і матэматыку патрэбна Радзіма...», змешчанае ў газеце «Звязда» 30 красавіка і 3 мая 1996 г., выклікала неадназначную рэакцыю нашых чытачоў.**

**Друкуючы сёння падборку чытацкіх лістоў і зваротаў у рэдакцыю, мы не каменціруем выказаныя думкі, меркаванні. Відавочна, што ў гэтай тэмы будзе і працяг.**

Узяцца за пяро вымусіла нас надрукаванае ў «Звяздзе» ад 30 красавіка інтэрв'ю з акадэмікам У. П. Платонавым. Мы былі супрацоўнікамі інстытута матэматыкі Акадэміі навук Беларусі яшчэ ў той час, калі У. П. Платонаў працаваў там загадчыкам лабараторыі, і былі сведкамі таго, як ён «ішоў да вяршынь» (тут і ўсюды ніжэй мы цытуем У. П. Платонава па яго інтэрв'ю) і як прыходзілі да яго спачатку пасада дырэктара нашага інстытута, а затым і «выключна адміністратарска-палітычная пасада прэзідэнта Акадэміі навук». Таму нас не здзівіла ні з'яўленне ў друку такога інтэрв'ю, ні яго змест. Гэтага трэба было чакаць. Былы прэзідэнт акадэміі — не той чалавек, які, здрадзіўшы ў самы адказны час беларускай навуцы, папросіць за гэта прабачэння ў навукоўцаў, а лепш было б — каб ва ўсіх грамадзян Беларусі. Не, для У. П. Платонава існуе толькі адзіны шлях: зганьбіць сумленных людзей, іх працу і на гэтым не толькі ўзняцца, але і пératварыць сваю здраду ў геройства.

Надрукаванае ў «Звяздзе» інтэрв'ю з'яўляецца яскравым адлюстраваннем тэхналогіі такога пераўтварэння. Сапраўды, якое сэрца не адчуе боль, калі даведаецца з інтэрв'ю, што «матэматыка на Беларусі гіне», задыхаецца ў «атмасферы ўдушэння», створанай «навуковым чыноўніцтвам»? Яшчэ больш балюча стане ад таго, што «ў нас ёсць таленавітыя людзі. Але з дня ў дзень іх меншае. Ад'язджаюць, бясследна знікаюць для беларускай навукі. Ад'язджаюць, пакідаюць і па маральнай прычыне». Прабачце за такую доўгую цытату, але без яе, як нам здаецца, не зразумець, якім чынам набывае ў інтэрв'ю зусім іншы выгляд добра вядомая ўсім нам з'ява сучаснага нашага жыцця, якая з нейчай лёгкай рукі атрымала назву «ўцечкі мазгоў» і сапраўдныя прычыны якой таксама добра вядомы, паколькі не адзін раз ужо абмяркоўваліся і на афіцыйных пасяджэннях самага рознага ўзроўню, і ў сродках масавай інфармацыі. Зразумела, што пасля дадзенага ў інтэрв'ю тлумачэння гэтай з'явы не можа не напоўніцца сэрца грамадзяніна Беларусі жалем і спачуваннем як асабіста У. П. Платонаву, так і ўсім тым талентам меншых памераў, якіх вымусілі пакінуць радзіму. А тут яшчэ і карэспандэнт, які бярэ інтэрв'ю, заўважае з выглядам знаўцы справы, што з ад'ездам У. П. Платонава ўзровень нашай беларускай навукі апусціўся так нізка, што яна нават і не спрабуе выходзіць за межы Беларусі. Цяпер ужо канчаткова ўсім становіцца зразумела, што калі той ці іншы беларускі навуковец не ўладкаваўся да гэтага часу на працу дзе-небудзь за мяжой, дык будзьце ўпэўнены, што ніякі гэта не навуковец, а так сабе — пасрэднасць. Што ж тычыцца людзей, якія займаюць у сучаснай навуцы тыя ці іншыя адміністрацыйныя пасады, дык яны заслугоўваюць нават таго, каб размову весці аб іх у рамках звычайнай прыстойнасці. І ўзрушаным крыўдай за родную беларускую навуку чытачам ужо не заўважыць недарэчнасці таго, што адзін і той жа чалавек, у прыватнасці І. В. Гайшун, калі быў намеснікам дырэктара падчас дырэктарства У. П. Платонава, разглядаўся тым жа У. П. Платонавым сама меней, як нядрэнны адміністратар (калі інакш, дык чаму тады трымаў яго на гэтай пасадзе?), а калі пасля ад'езду У. П. Платонава сам быў аднагалосна абраны дырэктарам інстытута, адразу ж ператварыўся ў такога кіраўніка, за якога У. П. Платонаву «асабіста нічога не застаецца, як прасіць у беларускіх матэматыкаў прабачэння». Апрача таго, чамусьці менавіта цяпер высвятляецца, што і матэматычныя здольнасці І. В. Гайшуна значна ніжэй дапушчальнага для акадэміка-матэматыка ўзроўню. Але як жа быць з тымі высокімі дасягненнямі І. В. Гайшуна ў матэматыцы, якія адзначаў сам У. П. Платонаў пры абранні І. В. Гайшуна спачатку членам-карэспандэнтам, а затым і акадэмікам Акадэміі навук Беларусі? Вынікі гэтых дасягненняў ужо назаўсёды застануцца ў матэматыцы ў тых амаль што 120 навуковых артыкулах і ў асабістых (без сааўтараў) манаграфіях, якія ён да гэтага часу надрукаваў. Дарэчы, заўважым, што толькі за апошнія два гады, якімі вельмі ганарыцца У. П. Платонаў, бо, цалкам аддаўшыся навуцы надрукаваў аж шэсць артыкулаў, І. В. Гайшун надрукаваў артыкулаў больш чым дзесяць і адну са сваіх манаграфій. І адначасова з гэтым у наш нялёгкі час нёс І. В. Гайшун цяжкі крыж пасады дырэктара акадэмічнага інстытута, клапоцячыся не столькі аб асабістым заробку, колькі аб заробку і магчымасці працаваць тут, на Беларусі для ўсіх супрацоўнікаў інстытута, як вядомых, так і зусім маладых, прыкладаючы ўсе намаганні, каб іх таленавітыя галовы засталіся ў беларускай навуцы, а не былі перахоплены замежнымі інстытутамі. Знаходзіць І. В. Гайшун час і для таго, каб чытаць лекцыі для студэнтаў, ды не ва універсітэце Ватэрлоо, што ў Канадзе, а ў нашым Беларускім дзяржаўным універсітэце для нашых беларускіх юнакоў і дзяўчат, якім таксама, а не амерыканскім, канадскім ды нямецкім, не грэх павучыцца ў акадэмікаў. Можна было б яшчэ многа гаварыць аб рабоце І. В. Гайшуна і як члена рэдкалегіі матэматычных часопісаў, і як намесніка акадэміка-сакратара Аддзялення фізікі, матэматыкі і інфарматыкі, і пра стварэнне пры яго актыўным удзеле Беларускага матэматычнага таварыства, з'яднаўшага ўсіх матэматыкаў Беларусі, і пра многае іншае. Але спынімся: ужо сказанага дастаткова для таго, каб убачыць, што зрабіць усё гэта пад сілу толькі чалавеку выключных здольнасцей і высокай адказнасці. Тое ж, што гаворыць аб І. В. Гайшуну ў сваім інтэрв'ю У. П. Платонаў, не толькі далёка ад праўды, але і выклікана на гэты свет не клопатам пра беларускую навуку, а зусім іншым. Тых жа чытачоў, якія сапраўды заклапочаны станам беларускай навукі, запэўнім у тым, што і цяпер на Беларусі працуе нямала таленавітых навукоўцаў. Вельмі многія нашы калегі-матэматыкі, якія не пакідалі радзіму для таго, каб узняць свой аўтарытэт, таксама добра вядомы ў свеце, і было б зусім нядрэнна, калі б газета расказвала аб іх суайчынніках. Знаходзячыся тут, на Беларусі, яны вядуць сумесныя даследаванні з замежнымі вучонымі, друкуюцца як у блізкім, так і ў далёкім замежжы, удзельнічаюць у міжнародных канферэнцыях і сімпозіумах. Дарэчы, цэлы шэраг нашых беларускіх матэматыкаў, і ў тым ліку акадэмік І. В. Гайшун, маюць запрашэнні прыняць удзел у еўрапейскім матэматычным кангрэсе ў Будапешце гэтым летам, прычым І. В. Гайшун запрашаецца ў Будапешт за кошт арганізацыйнага камітэта. Гаворым аб гэтым толькі таму, што У. П. Платонаў у сваім інтэрв'ю падае такое запрашэнне як ні з чым непараўнальнае дасягненне.

І, перш чым скончыць, хацелі б апярэдзіць тых, хто захоча скарыстаць гэта наша пісьмо для таго, каб пасварыць нас з усімі тымі нашымі суайчыннікамі, якія зараз жывуць і працуюць за мяжой. Мы добра ведаем, што большасць з іх былі і застануцца сумленнымі людзьмі, якія любілі і любяць нашу родную Беларусь і паважаюць тых, хто і цяпер працуе на Беларусі і лічыць, што не толькі «матэматыку патрэбна Радзіма», але што і Радзіме патрэбны матэматыкі.

**П. САБАЛЕЎСКІ, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута матэматыкі АН Беларусі, В. ГАРОХАВІК, галоўны навуковы супрацоўнік, доктар фізіка-матэматычных навук, М. ІЗОБАЎ, загадчык аддзела, акадэмік АНБ, Ф. КІРЫЛАВА, загадчык аддзела, доктар фізіка-матэматычных навук, П. МАТУС, загадчык аддзела Інстытута матэматыкі АНБ, У. САРВАНАЎ, загадчык аддзела Інстытута матэматыкі АН Беларусі, А. МЯЦЕЛЬСКІ, вядучы навуковы супрацоўнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, М. МЯЦЕЛЬСКІ, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута матэматыкі АНБ.**

■

З вялікай цікавасцю прачытаў шчырае інтэрв'ю акадэміка У. Платонава вашай газеце, апублікаванае 30 красавіка г. г. Мая павышаная цікавасць абумоўлена яшчэ і тым, што на працягу 26 гадоў я працаваў на пасадзе вучонага сакратара ў Інстытуце матэматыкі Акадэміі навук, прычым з 1977 па студзень 1992 года быў памочнікам выдатнага матэматыка акадэміка АН СССР (цяпер Расійскай АН) і АН Беларусі Уладзіміра Пятровіча Платонава. Гэта быў перыяд нялёгкай для мяне, але вельмі цікавай работы побач з таленавітым вучоным, які цалкам аддае сябе навуцы, патрабавальным, але справядлівым і добразычлівым чалавекам. Я ганаруся гэтым перыядам сваёй работы, я разумею, якое вялікае значэнне меў і мае акадэмік У. Платонаў для развіцця матэматыкі ў Рэспубліцы Беларусь.

Я ведаю, што асобныя месцы інтэрв'ю сустрэлі неадназначную ацэнку як сярод матэматыкаў, так і сярод больш шырокай навуковай грамадскасці. Як чалавек, цесна звязаны з жыццём Інстытута матэматыкі, я лічу, што ацэнка дзейнасці дырэктара Інстытута матэматыкі АН Беларусі І. Гайшуна, дадзеная ў інтэрв'ю, жорсткая, але справядлівая. Бо гэта цяжка ўявіць, калі асоба, адказная за развіццё матэматыкі ў краіне, стварае штучныя перашкоды для работы ў інстытуце такому унікальнаму вучонаму, як акадэмік У. Платонаў, яго таленавітаму вучню Андрэю Рапінчуку і інш. Ужо зусім невядома, як хутка з'явіцца, ды і ці знойдзецца наогул вартая ім змена. Ці ж гэта дапушчальна?

Па роду службы мне даводзілася часам суправаджаць У. Платонава ў яго паездках у Маскву. Я бачыў, як паважліва да яго ставяцца ў Прэзідыуме АН СССР, у Матэматычным інстытуце імя В. А. Сцяклова, а дамагчыся прыхільнасці, зацвердзіцца ў гэтай шаноўнай публікі, якая ведае сабе цану, зусім не проста. У канцы 1990 года У. Платонаў быў прызначаны Аддзяленнем матэматыкі АН СССР старшынёй Навуковай камісіі «Матэматычная логіка, алгебра і тэорыя лічбаў», г. зн. фактычна прызнаны вучоным № 1 у СССР у гэтым накірунку навукі, дарэчы, адзіны з перыферы.

У знак прызнання цяперашніх навуковых дасягненняў акадэміка У. Платонава яму, адзінаму матэматыку з Беларусі, міжнародным аргкамітэтам Еўрапейскага матэматычнага кангрэса прапанавана выступіць з гадзінным навуковым дакладам. Уключэнне вучонага ў невялікую колькасць асноўных дакладчыкаў кангрэса сведчыць аб высокім яго прызнанні і шырокай вядомасці. Тут сітуацыя зусім іншая, чым у выпадку атрымання заяўнікам звычайнага запрашэння для ўдзелу ў рабоце кангрэса па яго ўласнай просьбе.

Некаторыя матэматыкі не згодны са сцвярджэннем, прыведзеным у інтэрв'ю, што «матэматыка на Беларусі гіне, задыхаецца» — маўляў, людзі працуюць, стараюцца. Невялікае тлумачэнне: узровень развіцця матэматыкі ва ўстанове, у рэгіёне, краіне акрэсліваецца ўзроўнем яе вышэйшых дасягненняў. А гэтых дасягненняў становіцца ўсё менш. Прычыны — як аб'ектыўныя (крызісныя з'явы ў краіне), так і суб'ектыўныя. Калі носьбіты вышэйшых дасягненняў выцясняюцца, ім ускладняюцца ўмовы работы, калі атмасфера творчасці падмяняецца атмасферай страху і імкненнем дагадзіць, то, зразумела, не ствараюцца ўмовы для новага ўздыму матэматычнай навукі і культуры.

**З павагай Г. П. ЖАЎРЫД.**

■

Мы, група матэматыкаў Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, звяртаемся да вас у сувязі з інтэрв'ю акадэміка У. Платонава вашай газеце 30 красавіка 1996 года. На наш погляд, акадэмікам У. Платонавым даецца неаб'ектыўная ацэнка дзейнасці беларускіх матэматыкаў і дырэктара Інстытута матэматыкі АН Беларусі акадэміка І. Гайшуна. Нягледзячы на вялікія фінансавыя цяжкасці, у Беларусі паспяхова развіваюцца многія матэматычныя накірункі. У прыватнасці, у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце дыферэнцыяльныя ўраўненні, тэорыя кіравання, тэорыя функцый, алгебра, тэорыя імавернасцей і інш. Гэта пацвярджаюць шматлікія публікацыі ў беларускіх і міжнародных матэматычных выданнях, абароны кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый, арганізацыя і правядзенне розных міжнародных матэматычных канферэнцый. Толькі ў ГДУ за апошнія чатыры гады абаронены 3 доктарскія дысертацыі па розных матэматычных накірунках, праведзены 3 рэспубліканскія і міжнародныя матэматычныя канферэнцыі, галоўным арганізатарам і старшынёй аргкамітэта якіх быў акадэмік І. Гайшун. У бягучым годзе ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце адкрыты спецыялізаваны Савет па дыферэнцыяльных ураўненнях.

Акадэмік І. Гайшун неаднаразова выступаў з лекцыямі перад студэнтамі і выкладчыкамі матэматычнага факультэта ГДУ, актыўна падтрымлівае ўсе праводзімыя ў нас матэматычныя даследаванні і карыстаецца ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце вялікім аўтарытэтам.

Для нас застаецца загадкай, чаму акадэмік У. Платонаў дае прынцыпова няправільную ацэнку дзейнасці беларускіх матэматыкаў і дырэктара Інстытута матэматыкі АН Беларусі акадэміка І. Гайшуна.

Мы просім вас апублікаваць наша пісьмо ў газеце «Звязда», таму што мы маем права на ацэнку выступлення ў друку былога прэзідэнта Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

**С. МІНЮК, прафесар, І. МАРТЫНАЎ, прафесар, Т. МОЖДЖЭР, дэкан матэматычнага факультэта ГДУ.**

■

Я хачу выказаць сваю поўную згоду з ацэнкай, дадзенай цяперашняму дырэктару Інстытута матэматыкі Акадэміі навук І. Гайшуну і яго дзеянням у інтэрв'ю У. Платонава, апублікаваным вашай газетай. Праблемы, закранутыя ў інтэрв'ю, абмяркоўваюцца ў матэматычных колах як у рэспубліцы, так і за мяжой ужо даўно, але цяпер падзеі дасягнулі такой ступені развіцця, калі без удзелу прэсы, відаць, не абысціся. Асноўная з гэтых праблем — занепакоенасць лёсам развіцця матэматыкі ў рэспубліцы.

Дасягненні матэматыкаў рэспублікі ў шэрагу накірункаў так добра вядомы, што, на мой погляд, няма патрэбы пералічваць атрыманыя прэміі, выступленні на міжнародных форумах і г. д. Поспехі гэтыя з'яўляюцца прамым вынікам таго, што шматгадовымі намаганнямі шэрага буйных матэматыкаў у рэспубліцы былі створаны цяпер шырока вядомыя школы ў галіне алгебры, дыферэнцыяльных ураўненняў, вылічальнай матэматыкі і іншых галінах. Аднак за разбурэнне таго, што стваралася многімі, узяўся адзін чалавек — І. Гайшун. Найбольш актыўна яго дзейнасць накіравана супраць алгебраічнай школы (падумайце самі: пазбаўлены лабараторыі член-карэспандэнт АН РБ А. Залескі; выключаны з саставу спецсавета па алгебры пры інстытуце У. Платонаў (старшыня былога саставу савета), я (вучоны сакратар), не ўключаны іншыя дактары навук, якія маюць незалежную пазіцыю; у гэтым годзе звольнены з інстытута за прагул 3 алгебраісты, якія хаця і знаходзяцца часова за мяжой, але вынікі іх уключаліся ў планы і справаздачы інстытута). Я не хачу абмяркоўваць іншыя такія ж прыклады, але заўважу, што працэс «чысткі» закрануў не толькі алгебраістаў і не толькі «замежнікаў». І прычына гэтай «чысткі» ляжыць не толькі ў імкненні вызваліць інстытут ад непрацуючых матэматыкаў; выганяюцца людзі, якія маюць незалежную думку і якія могуць перашкодзіць працэсу пераўтварэння Інстытута матэматыкі, які праводзіць Гайшун, з акадэмічнай установы ў яго прыватны маёнтак, які ён можа здаць і пераздаць, дзе ён можа парушыць сваё ж слова, прынізіць кожнага і аднаасобна вырашыць яго лёс.

Прайшло ўжо амаль чатыры гады, як дзякуючы непрадказальнаму збегу абставінаў Гайшун узначаліў асноўны матэматычны цэнтр рэспублікі, і ўжо можна і трэба рабіць высновы. Відаць, сваё меркаванне павінна выказаць матэматычная грамадскасць рэспублікі, і на яе думку павінна быць звернута ўвага Аддзялення і Прэзідыума акадэміі пры разглядзе ў наступным годзе справаздачы Гайшуна аб рабоце на пасадзе дырэктара інстытута за 5-гадовы тэрмін. Гэта ўсё будзе праз год. Але ўжо цяпер зразумела, што нельга даць гэтаму матэматычнаму Герастрату давесці да канца сваю справу.

**А. РАПІНЧУК, доктар фізіка-матэматычных навук.**

***Андрэй Рапінчук, як рэдакцыі патлумачылі ў Інстытуце матэматыкі, зараз знаходзіцца за мяжой і супрацоўнікам інстытута не з'яўляецца.***

■

Падзяляем заклапочанасць, выказаную ў інтэрв'ю У. П. Платонава ад 30 красавіка г. г. наконт сітуацыі ў матэматычнай навуцы Беларусі. Усялякі дыктат у матэматыцы, як і ў іншай навуцы, недапушчальны.

**Прафесары матэматыкі Гомельскага дзяржуніверсітэта І. МАКСІМЕЙ, Л. ШАМЯТКОЎ, А. СКІБА, А. КАМОРНІКАЎ, В. МАНАХАЎ.**

■

30 красавіка 1996 года ў газеце «Звязда» было апублікавана інтэрв'ю з акадэмікам У. П. Платонавым. У гэтым інтэрв'ю, у прыватнасці, акадэмік У. П. Платонаў даў ацэнку сітуацыі, якая склалася ў беларускай матэматыцы.

Мы лічым гэту ацэнку аб'ектыўнай, яна садзейнічае правільнаму разуменню таго, што на самай справе адбываецца ў беларускай матэматыцы.

**А. ФЕДЗЕНКА, прафесар, доктар фізіка-матэматычных навук; А. МЕЛЬНІКАЎ, прафесар, доктар фізіка-матэматычных навук; А. ТАЎГЕНЬ, прафесар, доктар фізіка-матэматычных навук; У. ЧАРНАВУСАЎ, доктар фізіка-матэматычных навук.**

■

На працягу многіх гадоў матэматыку на Беларусі ўзначальваў адзін з буйнейшых вучоных СССР акадэмік У. П. Платонаў. Як усім добра вядома, У. П. Платонаў карыстаўся самай шырокай вядомасцю як у СССР, так і за мяжой. Дастаткова прывесці некалькі фактаў. У. П. Платонаў абараніў дысертацыю на ступень доктара фізіка-матэматычных навук ва ўзросце 26 гадоў і быў адным з самых маладых дактароў навук у СССР. У 1968 г., ва ўзросце 28 гадоў, ён быў удастоены Усесаюзнай прэміі Ленінскага камсамола.

У 1978 г. яму была прысуджана вышэйшая навуковая ўзнагарода краіны — Ленінская прэмія, прычым, што было рэдкай з'явай, ён атрымаў гэту прэмію адзін — за выдатны асабісты ўклад у развіццё сучаснай алгебры.

Прызнаннем буйных заслуг У. П. Платонава ў развіцці матэматыкі было выбранне яго акадэмікам АН СССР у 1987 годзе.

Створаная У. П. Платонавым на Беларусі матэматычная школа атрымала ўжо ў 80-х гадах шырокае міжнароднае прызнанне: прадстаўнікі гэтай школы, такія як А. Рапінчук, У. Чарнавусаў, А. Мельнікаў і іншыя, сталі вядучымі спецыялістамі ў галіне алгебры ў СССР. Стварэнне і станаўленне гэтай школы было непарыўна звязана з развіццём Інстытута матэматыкі АН Беларусі, кіраўніком якога быў У. П. Платонаў. Менавіта дасягненні школы прынеслі славу беларускай матэматыцы і зрабілі беларускую навуку вядомай ва ўсім свеце.

Мы са шкадаваннем даведаліся пра спробы, якія робяцца зараз у Інстытуце матэматыкі АН Беларусі, разбурыць гэтую сусветна вядомую школу і пазбавіць стваральніка гэтай школы — акадэміка У. П. Платонава магчымасцей актыўна ўдзельнічаць у навуковай дзейнасці Інстытута і ўзначальваемай ім навуковай школы. Гэта наносіць непапраўную шкоду развіццю навукі ў Беларусі і негатыўна адбіваецца на рэпутацыі Інстытута матэматыкі АН Беларусі.

Сучасны дырэктар Інстытута матэматыкі АН Беларусі доктар фізіка-матэматычных навук не мае навуковай рэпутацыі міжнароднага ўзроўню. Не існуе прыметнай матэматычнай школы, звязанай з яго імем. Мы не ведаем колькі-небудзь значнага ўкладу І. В. Гайшуна ў развіццё матэматыкі ў Беларусі.

**Акадэмік-сакратар аддзялення матэматыкі расійскай АН Л. ФАДЗЕЕЎ, акадэмік С. НОВІКАЎ, акадэмік А. ФАМЕНКА, акадэмік Дз. АНОСАЎ, акадэмік Я. МІШЧАНКА.**

■

Мы, група матэматыкаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта, звяртаемся ў рэдакцыю Вашай газеты ў сувязі з тым, што мы прынцыпова не згодны з ацэнкай дзейнасці беларускіх матэматыкаў і дырэктара Інстытута матэматыкі АН Беларусі акадэміка І. В. Гайшуна, якую даў акадэмік У. П. Платонаў у інтэрв'ю вашай газеце 30 красавіка 1996 года. Выказванне У. П. Платонава аб тым, што цяпер развальваецца беларуская матэматычная школа, не адпавядае сапраўднасці. Нягледзячы на цяжкія фінансавыя ўмовы, у Беларусі працягваюць развівацца даволі паспяхова такія матэматычныя напрамкі, як дыферэнцыяльныя і інтэгральныя ўраўненні, тэорыя кіравання, вылічальная матэматыка, тэорыя функцый, алгебра, геаметрыя, тэорыя імавернасцей, тэорыя лічбаў, кібернетыка, тэарэтычная механіка, а таксама розныя прыкладныя дысцыпліны. Пацвярджэннем гэтага з'яўляюцца публікацыі сотняў артыкулаў у беларускіх і міжнародных матэматычных часопісах, дзесяткаў кніг у нашых і замежных выдавецтвах, шматлікія абароны кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый за апошнія чатыры гады, а таксама міжнародныя канферэнцыі — штогадовыя ЯругІнскія чытанні, канферэнцыі, прысвечаныя 80-годдзю акадэміка Д. А. Супруненкі (1995 год) і 90-годдзю акадэміка Ф. Д. Гахава (1996) і іншыя, у якіх прымалі ўдзел матэматыкі з многіх замежных краін і ў рашэннях якіх адзначаны сусветны прыярытэт беларускіх матэматычных школ па тэматыках канферэнцый. Важнай з'явай, якая павысіла аўтарытэт беларускіх матэматыкаў, стала стварэнне і функцыянаванне Беларускага матэматычнага таварыства.

Важную ролю ва ўсіх гэтых мерапрыемствах адыграў акадэмік І. В. Гайшун, які карыстаецца заслужаным аўтарытэтам не толькі ў беларускім, але і міжнародным матэматычным асяроддзі. Прызнаннем яго заслуг з'явілася запрашэнне Аргкамітэта Міжнароднага матэматычнага таварыства прыняць удзел у рабоце чарговага Матэматычнага кангрэса з аплатай усіх расходаў Аргкамітэтам. Дарэчы, чатыры гады таму У. П. Платонаў, будучы прэзідэнтам АН Беларусі, перад выбраннем І. В. Гайшуна акадэмікам сам даваў выдатную характарыстыку І. В. Гайшуну, ацэньваючы яго навуковую і арганізацыйную работу на пасадзе намесніка дырэктара Інстытута матэматыкі АН Беларусі.

Калі ж гаварыць аб рабоце І. В. Гайшуна за апошнія чатыры гады, асабліва пасля ад'езду У. П. Платонава за мяжу, то ён зрабіў усё, што мог, і нават больш, для таго, каб беларускія матэматычныя школы (а не адна школа, як сказана ў інтэрв'ю У. П. Платонава) працягвалі паспяхова развівацца. Будучы намеснікам дырэктара, а затым дырэктарам Інстытута матэматыкі АН Беларусі, І. В. Гайшун актыўна падтрымліваў усе праводзімыя там даследаванні, забяспечваючы фінансавую падтрымку і запрашаючы на работу ў Інстытут новых маладых таленавітых супрацоўнікаў. Большая частка з іх — былыя студэнты механіка-матэматычнага факультэта і факультэта прыкладной матэматыкі Белдзяржуніверсітэта. І. В. Гайшун сам, нягледзячы на занятасць, кожны семестр чытае лекцыі студэнтам Белдзяржуніверсітэта і карыстаецца велізарным аўтарытэтам сярод яго супрацоўнікаў і студэнтаў. Акрамя таго, ён маральна і матэрыяльна (за кошт Фонду фундаментальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь) падтрымліваў і падтрымлівае навуковыя даследаванні, якія вядуцца на матэматычных факультэтах Белдзяржуніверсітэта. Дзякуючы гэтаму практычна ніхто з маладых таленавітых матэматыкаў — дактароў навук не пакінуў Беларусь, а да гэтага часу працуе на яе карысць.

У сувязі з вышэйсказаным нам незразумела, на якой падставе акадэмікам У. П. Платонавым, які працаваў у апошнія гады за мяжой, зроблена прынцыпова няправільная ацэнка дзейнасці беларускіх матэматыкаў і дырэктара Інстытута матэматыкі АН Беларусі акадэміка І. В. Гайшуна. Мы звяртаемся з просьбай апублікаваць наша пісьмо ў газеце «Звязда» з тым, каб усе беларускія людзі маглі пазнаёміцца з нашай думкай і даць сваю ацэнку выступленню ў друку былога прэзідэнта Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

**Э. ЗВЯРОВІЧ, загадчык кафедры тэорый функцый БДУ, доктар фізіка-матэматычных навук; А. КАЛІНІН, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар; П. ЗАБРЭЙКА, загадчык кафедры матэматычных метадаў тэорыі кіравання, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар; В. ТРАПАК, загадчык кафедры, доктар фізіка-матэматычных навук; В. КОНЮХ, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар; Т. МЯДЗВЕДЗЕЎ, загадчык кафедры тэорыі верагоднасцей і матэматычнай статыстыкі; В. ФЯДОСЕНКА, загадчык кафедры агульнай матэматыкі і інфарматыкі; А. КІЛБАС, доктар фізіка-матэматычных навук; Н. ЗУЕЎ, прафесар; Л. ЗАБЕЛА, доктар фізіка-матэматычных навук; Н. КАЗЛАВАЯ, загадчык кафедры тэорыі механікі і робататэхнікі.**

36,6°

# ВАМ НАЗНАЧАЕЦЦА... ЭЛЕКТРОННАЯ ТАБЛЕТКА

**З выгляду яна падобная на фасоліну. Праўда, у металічнай абалонцы. А ўсярэдзіне мікраблок — генератар імпульсаў і крыніца сілкавання. Гэта і ёсць «цуда-таблетка», якая ў 30-я гады была вынайдзена ў Томску. Па словах спецыялістаў, унікальны медыцынскі сродак, здольны нармалізоўваць функцыі чалавечага арганізма і нават амалоджваць яго.**

**А ўбачыла я электронную таблетку ў мінскім цэнтры «Надзея». Як давялося даведацца з розных публікацый, у свой час у асноўным толькі пацыенты клінік 4-га Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя маглі адчуць на сабе жыватворнае ўздзеянне «цуда-пілюль». Гэта партыйна-гаспадарчая эліта былога СССР, родныя вядомых кіраўнікоў краіны, вядомыя дзеячы культуры, касманаўты. Каля двух мільёнаў чалавек глыталі электронныя таблеткі. Адчуўшы на сабе жыватворнае ўздзеянне новага сродку, многія прымалі яго зноў і зноў... Умовы элітных клінік такую магчымасць прадаставілялі...**

**Дык што ж гэта за унікальнае лякарства, ад якіх хвароб могуць пазбавіць таблеткі, якія зусім і не таблеткі? Вось што расказала галоўны ўрач цэнтра «Надзея» Алена Мікалаеўна НІКІЦІНА:**

— Новы лекавы сродак, які часам называюць рэвалюцыяй у медыцыне, быў распрацаваны спецыялістамі засакрэчанага раней Томскага інстытута АСК і радыёэлектронікі і адной з «паштовых скрынак». Дзесяць гадоў таму загадам міністра аховы здароўя СССР было дазволена ўжыванне унікальнага лякарства ў медыцынскай практыцы. Вынаходка электроншчыкаў і абароншчыкаў атрымала шэраг медалёў і дыпломаў самых розных выставак. Аўтаномны электрастымулятар страўнікава-кішачнага тракта (АЭС СКТ) — так называюць электронныя таблеткі.

Капсулу глытаюць, запіваючы вадой. Трапіўшы ў арганізм, мікрапрацэсар уключаецца, пачынаецца нармалізуючае ўздзеянне на ўсе органы і сістэмы. У арганізме капсула можа знаходзіцца ад некалькіх гадзін да некалькіх сутак. На працягу паўгода пасля прыёму адной электроннай таблеткі працягваецца яе лекавае ўздзеянне на арганізм. Паляпшаюцца кровазварот, стан нервовай сістэмы, павялічваецца імунітэт, нармалізуецца ціск, работа сэрца, страўніка, печані, падстраўнікавай залозы і прастаты, нырак. Страўнікава-кішачны тракт, а з ім і ўвесь арганізм ачышчаецца ад шлакаў і радыенуклідаў. Знікае хранічная стомленасць. Адзначана таксама станоўчае ўздзеянне электронных таблетак на арганізм пры атэрасклерозе. На сённяшні дзень АЭС СКТ — лепшы сродак для яго лячэння і прафілактыкі. За кошт паляпшэння функцыі эндакрыннай і імуннай сістэм адбываецца амаладжэнне арганізма. Прычым ніякіх негатыўных вынікаў уздзеяння электронных таблетак не выяўлена.

Трынаццаць краін Еўропы, Азіі і Амерыкі набываюць гэты унікальны сродак у Расіі.

**...Медыцынскі цэнтр «Надзея» (вул. Жудро, 40, тэл. 55-06-02), дзе можна набыць цуда-капсулы, многія мінчане ведаюць, бо ўжо былі яго пацыентамі. Тут выкарыстоўваецца яшчэ адзін нетрадыцыйны метад лячэння. Гэта мікрахвалевая рэзанансная тэрапія. У яго аснове — адкрыццё расійскімі вучонымі біялагічнага рэзанансу і старажытны вопыт усходняй медыцыны. Уздзейнічаючы на біялагічна актыўныя кропкі цела мікрахвалямі ў частаце біяполя чалавека, урач актывізуе ўнутраныя рэзервы арганізма. У выніку павышаецца імунітэт, адступаюць шматлікія хваробы.**

**Ну а цяпер у арсенале медыкаў яшчэ і электронная таблетка. І многія ўжо паспелі адчуць на сабе яе жыватворнае ўздзеянне.**

**Наталля УЛАДЗІМІРАВА.**

## НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

# ЧЭРВЕНЬ

***Назва першага месяца лета тлумачыцца не вельмі прыгожа — з'яўленнем чарвякоў. Ёсць, праўда, больш эстэтычны варыянт — у гэтым месяцы набываюць чырвоны колер некаторыя ягады.***

***Старажытныя рымляне прысвячалі гэты месяц багіні Юноне, а па іншых звестках, месяц быў названы ў гонар першага рымскага консула Юніуса Брута. Лацінская назва захавалася ў заходнееўрапейскіх і рускай мовах.***

**2. Праваслаўная Тройца (Сёмуха).**

**3. Алена.** Дзень ільну. «Сей лён на Алену — будзе кашуля па калена», — гавораць у народзе.

**5. Ефрасіння.** Дзень памяці Ефрасінні Полацкай.

**13. Ерамей.** Заканчвалася ўсякая сяўба. «Прыйшоў Ерамей — больш не сей».

**14. Юстын і Харытон.** «Юстын цягне ўверх каноплі, Харытон — лён».

**22. Кірыла.** Дзень летняга сонцастаяння. Лічылася, што на Кірылу з усяе моцы зямля імкнецца да сонца.

**24.** У католікаў — **Купала**. «На Купала раса — будуць агуркі».

**25. Анапрэй (Нупрэй).** Спрыяльны дзень для сяўбы грэчкі. «Хто на Нупрэя пасеяў грэч — будзе бліны печ». Лічылася, што ўжо паспелі суніцы.

**28. Амос.** «Прыйшоў Амос — цягне ўгору авёс».

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталях:** 4. Штучны будаўнічы матэрыял. 5. Беларускі кампазітар, аўтар музыкі да кінафільма «Дзеці партызана». 8. Вёска пад Масквой, славутая з часоў вайны 1812 года. 10. Жанр вайсковай музыкі. 11. Узброены напад адной дзяржавы на другую з мэтай захопу яе тэрыторыі. 12. Урачысты агляд войск. 14. Шпіён, дыверсант. 16. Сістэма ўмоўных знакаў, сігналаў для сувязі. 17. Сродак пераправы цераз раку. 22. Беларускі паэт-класік, аўтар паэмы «Адплата». 23. Сакрэт асаблівай важнасці. 24. Буксірны падводны апарат для аховы карабля ад якарных мін. 27. Распрацоўшчык лятальных апаратаў. 30. У старыя часы — унтэр-афіцэр у казацкім войску. 31. Беларускі пісьменнік, аўтар аповесці «Альпійская балада». 32. Тэхнічны вузел рэактыўнага рухавіка. 36. Бухта на Чорным моры, вядомая па часах руска-турэцкіх войнаў. 37. Савецкая касмічная станцыя. 39. Від вядзення паветранага бою. 42. Дэталь эфеса халоднай зброі. 44. Часопіс бранятанкавых войскаў Расіі. 45. Прозвішча французскіх партызанаў у часы другой сусветнай вайны. 46. Земляное фартыфікацыйнае збудаванне. 47. Сігнал трывогі. 48. Група байцоў для аховы і разведкі.

**Па вертыкалях:** 1. Савецкі разведчык, Герой Савецкага Саюза. 2. Назва ракі, сімвал беспаваротнага рашэння Ю. Цэзара па захопу Італіі. 3. Разрыўны снарад. 4. Прывал войскаў пад адкрытым небам. 6. Мемарыяльнае збудаванне на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці-героя. 7. Планета Сонечнай сістэмы. 9. Візуальнае вывучэнне становішча на мясцовасці. 12. Асаблівы барабанны марш пры адданні чэсці як узнагарода за ваенныя поспехі ў старой рускай арміі. 13. Партовае збудаванне для рамонту і агляду тэхнічнага становішча судна. 15. Нацыянальны герой Беларусі. 18. Начальнік акругі ў старой Русі. 19. Возера ў Прыморскім краі Расіі. 20. Ахоўны баявы галаўны ўбор. 21. Тэхнічная ўстаноўка для вызначэння месцазнаходжання прадмета з дапамогай электрамагнітных хваляў. 25. Ганаровы салдат, кавалер трох Георгіеўскіх крыжоў, які выратаваў сцяг Самарска-Ульянаўскай жалезнай дывізіі. 26. Ледакол Арктычнага флота. 28. Крэпасць-герой. 29. Ракетны крэйсер Чарнаморскага флоту. 33. Лётнае майстэрства. 34. Марка самалёта-знішчальніка. 35. Славуты абаронца Брэсцкай крэпасці. 38. Радыёлакатар. 40. Часцінка хімічнага элемента. 41. Афіцыйны нарматыўна-прававы дакумент для вайскоўцаў. 43. Палявое ўмацаванне.

**Склаў Валерый ПІНЧУК.**
*г. Бабруйск.*

### КРЫПТАГРАМА



Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка зашыфраваную народную мудрасць:

а) 1-2-3-4-5-6-7-8-9-10-2 — скульптура А. Галубкінай;

б) 2-11-2-12 — родны дом, свая сям'я;

в) 13-14-15-4 — лёс;

г) 13-16-17 — маральная сіла, настрой;

д) 18-10-2 — біблейскае жаночае імя.

**Склаў Рыгор ЯКУШ.**
*г. Мінск.*

### ГАЛАВАЛОМКА




Адшукайце ключык да разгадкі. Умоўныя знакі па акружнасці замяніце на літары. Калі гэта будзе зроблена правільна, у клетках па ходу гадзіннікавай стрэлкі вы прачытаеце выказванне рускай паэтэсы Ганны Ахматавай.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*

### ПРАВЕРЦЕ РАШЭННІ

**Крыжаванка (25 мая). Па гарызанталях:** 2. «Свяцк». 7. «Кругавая». 8. Чыгрынаў. 10. Абора. 11. «Трактар». 12. Скарына. 15. Палік. 17. «Салавей». 18. Пацяг. 20. Бразер. 21. «Стайкі». 25. Апука. 26. Некалач. 27. «Тэлма». 30. Крупнік. 31. «Прастор». 32. Верас. 34. Янкоўскі. 35. Васількі. 36. Рымша. **Па вертыкалях:** 1. «Ураджай». 2. «Смага». 3. Крыга. 4. Карункі. 5. Грызайль. 6. «Балтыйцы». 9. Шостак. 13. Габелен. 14. Пестрак. 15. Пліса. 16. Карма. 18. Пукст. 19. Горна. 22. «Будучыня». 23. «Касары». 24. Альтанка. 28. Кіраўск. 29. «Крыніцы». 32. Вакар. 33. Слава.

**Галаваломка (25 мая).** Прымаўка чытаецца так: «Чалавек без сяброў — што дрэва без каранёў».

**Лагагрыфы (25 мая). Ключавыя словы:** 1. Абрус. 2. Бручка. 3. Вежа. 4. Баёк. 5. Атэлье. 6. Згуба. 7. Смага. 8. Горан. 9. Метро. 10. Гумар. 11. Слава. 12. Культ. 13. Абуза. 14. Трасца. 15. Курсы. 16. Шаль. У клетках малюнка: «Усё новае ёсць моцна забытае старое».

### ЧАЙНВОРД «К»



1. Драпежная птушка. 2. Наш зямляк, лётчык-касманаўт. 3. Неразбярыха, беспарадак. 4. Раённы цэнтр на Міншчыне. 5. Выдатны пісьменнік, дзеяч мастацтва, навукі, які карыстаецца агульным прызнаннем. 6. Традыцыйная беларуская страва. 7. Від крапаснай вежы. 8. Шабля, кінжал. 9. Беларускі народны танец. 10. Амплуа тэатральнага або кінаакцёра. 11. Балотная птушка. 12. Лётчык, камандзір цяжкага самалёта-бамбардзіроўшчыка «Ілья Мурамец». 13. Халодная калючая зброя. 14. Памяшканне для суднавай каманды на караблі. 15. Польскі педагог і пісьменнік, закатаваны ў часы вайны разам з выхаванцамі і супрацоўнікамі «Дома сірот». 16. Сціснутыя, сабраныя разам пальцы рукі. 17. Раённы цэнтр на Магілёўшчыне. 18. Наш зямляк, лётчык-касманаўт. 19. Эластычны матэрыял з групы высокамалекулярных злучэнняў. 20. Сярэбраная манета XIII—XV стст. на тэрыторыі Польшчы. 21. Беларускі скрыпач, заслужаны артыст БССР (1954 г.). 22. Чарада рыб, птушак. 23. Украінскі драматург, Герой Сацыялістычнай Працы. 24. Месяц каляндарнага года. 25. Папулярная праграма Беларускага тэлебачання. 26. Беларускі народны танец. 27. Рускі паэт, які пераклаў на рускую мову раман І. Мележа «Людзі на балоце». 28. Эстонскі спявак і педагог, народны артыст СССР. 29. Польскі астраном, стваральнік геліяцэнтрычнай ідэі сістэмы свету. 30. Чалавек вельмі малога росту.

**Склаў Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ.**



## ВІНШАВАННІ

*Ветэрана вайны, добрага чалавека **Івана Манкевіча** з Матылёў шчыра віншуе з юбілеем А. Жалкоўскі з г. Ліды.*

*Віншую дарагую дачушку **Наталлю Післяк** з днём нараджэння. Шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту табе, дачушка.*

**Маці.**

Віншую ***Міхаіла Пятровіча Кавалькова*** з днём нараджэння. Моцнага здароўя, дабрабыту, сямейнага шчасця табе.

**Валянцін.**

*З днём нараджэння,*

***Аркадзій Іванавіч Драгун!** Жадаем усяго найлепшага. Дзякуй за любоў і клопат аб нас, за прыклад сумленнасці і працавітасці, за тое, што Вы сталі падтрымкай і апорай у нашым жыцці.*

**Дачка, зяці і ўнукі Віталь і Вераніка Варановічы.**

Дарагая і мілая мамачка і бабуля ***Яніна Браніславаўна Пашкевіч.*** Віншуем цябе з юбілеем. Мы ўдзячныя табе за клопаты і турботы, за ласку і пяшчоту. Няхай жыццё тваё будзе шчаслівым і радасным. Здароўя і дабрабыту табе.

**Дзеці, унукі.**

*Віншуем з законным шлюбам **Рагель Сяргея і Майсевіч Святлану** з вёскі Сакаўшчына Валожынскага раёна. Жадаем пранесці каханне праз усё жыццё, захаваўшы чысціню пачуццяў і веру ў будучыню.*

**Сябры і добрыя знаёмыя.**

Віншуем загадчыка кафедры МТЛВ БДПА прафесара ***Давыда Міхайлавіча Кукуя*** з юбілейным днём нараджэння. Жадаем новых творчых здзяйсненняў, няўрымслівасці і натхнення.

**Калегі.**



**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

Галоўны рэдактар **У. НАРКЕВІЧ.**

Рэдакцыйная калегія: **У. АНДРЫЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара), **І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА** (намеснік галоўнага рэдактара), **С. ШАЎЦОЎ.**

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.**
**Тыраж 100288. Індэкс 63850.**
**Зак. № 2742.**
**Выходзіць 250 разоў на год.**
**Нумар падпісаны ў 20.15.**
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12